Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 29 (83) Серада, 29-га Ліпня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Надпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego” pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.



## Актуальнае пытаньне.

„Аб'яднаная Беларусь пад уладай сялян і работнікаў“ — гэткі лёзунг выкінуў, ад імя сваей групы, старшыня новаўтворанай беларускай „Сялянска-Работніцкай Грамады“ — п. Тарашкевіч.

Трэба зазначыць, што выкідаючы гэты лёзунг, п. Тарашкевіч меў пэўную рацыю: кожны шчыры беларус лятуціць і носіць у сабе думку — аб „аб'яднанай Беларусі“.

Праўдзівы патрыёт-беларус ніколі не пагодзіцца з „рыскімі“ граніцамі, падзяліўшымі жывое цела Беларусі на дзьве часткі.

Ніколі не згаджаліся з гэтым і мы — прадстаўнікі беларускага полёнафільскага і актыўна-антыбальшавіцкага кірунку. Быў, нават, час, калі шмат хто з нас сядзеў у польскіх вастрогах толькі за тое, што хацеў сваімі слабымі сіламі зьдзейсьніць гэту ідэю. Гэта быў час мядовага месяца ў адносінах Польшчы да бальшавікоў. Тады ў Рызе рабілася „вівісэкцыя“ над Беларусьсю, а беларускія патрыёты альбо гінулі ў лясох у партызанскай барацьбе з бальшавікамі, а часам, за змаганьне з бальшавікамі і за ідэю аб'яднаньня Беларусі ў лучнасьці з Польшчай, траплялі ў вастрогі і за дрот. У той час была арыштавана, нават, і частка польскай крэсовай (закардоннай) інтэлігэнцыі, якая не магла забыць аб тэй зямельцы, на якой яна радзілася і з якой моцна зжылася.

Ад тэй пары мала вады ўцякло, але часы вельмі зьмяніліся...

Ізноў у Польшчы выкінуты лёзунг аб'яднанае Беларусі.

Але лёзунг гэты у той форме, у якой яго выкінула „Сялянска-Работніцкая Грамада“ — зусім не знаходзіць водгуку ў нашых сэрцах. Чуецца ў ім фальш і штучнасьць, а ня любоў да Бацькаўшчыны.

Аб якой, наагул, нацыянальнай ідэі можа гаварыць „без пяці мінут“ комуністычная — *інтэрнацыянальная* група п. Тарашкевіча?.. група—ў якой над усім дамініруе мамэнт социяльны!? Зразумела, што за плячыма ўсіх камуністычных і камунізуючых групаў і партыяў заўсёды стаіць Комінтэрн. А дзе ёсьць Комінтэрн— там ня можа быць мейсца ніякай нацыянальнай ідэялёгіі. Усе мы добра ведаем, што зрабілі з гэтым пекным лёзунгам бальшавікі; добра ведаем як яны запаганілі самую ідэю—аб'яднаньня Беларусі. Амаль ня ў кожным нумары „Савецкай Беларусі“, „Młota” і „Звязды“, бальшавікі вельмі спрытна карыстаюцца гэтым *нацыянальным* лёзунгам для сваіх, выключна *інтэрнацыянальных*, мэтаў. Бальшавікі добра ведаюць, што беларускі адраджэнскі рух з кожным днём расьце, мацнее і ахапляе ўсё шырэйшыя масы сялянства і інтэлігэнцыі.

Раней, у 1918 — 1919 гадох, яны хацелі гэты рух зусім задавіць,—але, пасьля няўдалых спробаў, адкінулі гэтыя мэтоды. Цяпер яны пакладаюць усе высілкі на тое, каб *скіраваць гэты рух на карысны для іх, бальшавікоў, шлях.* Яны зразумелі, што з беларускім нацыянальным рухам трэба лічыцца як з фактам.

Нажаль, у нас тут, надзіва блізарукія польскія партыі, ці упарта зусім ня хочуць бачыць гэтага руху, ці рашуча з ім змагаюцца.

Але, як не задушылі беларускай нацыянальнай ідэі ні арэшты, ні высяленьні, ні тэрор „чрэзвычаек“ бальшавіцкіх, так не дапяць і польскім партыям ультра-нацыяналістычнага кірунку — дэнацыяналізацыі беларускага народу ў межах Польшчы. Прымусовая, чужая школа (замест роднай матчынай) асадніцтва чужацкіх элемэнтаў на—з прадвеку—беларускіх землях, — ня толькі не паўлічваюць „польскасьці“ на „крэсах“, а, нават, даюць аружжа ў рукі розных штучных „Сялянска-Работніцкіх Грамадаў“.

Трэба зазначыць, што Польшча мае ў сучасны мамэнт, у параўнаньні з Савецкай Расеяй, далёка вялікшыя козыры. Гэтымі казырамі ёсьць ненавісьць беларускага Народу да бальшавіцка-камісарскай міжнароднай банды; гэтымі козырамі ёсьць агіда і ненавісьць беларускага сялянства да комуны, да непасільных падаткаў, рэквізіцыяў, разьвёрстак і г. п; гэтымі козырамі ёсьць скрытая, але бяз конца магутная ненавісьць беларускай інтэлігэнцыі да маскоўскіх камісараў і да „чэка“ за саромнае рабства, за зьдзекі, за тое, што амаль ня кожная сямья страціла лепшых сваіх сябраў, замучаных у бальшавіцкіх засьценках; гэтымі казырамі ёсьць імкненьні беларускага народу да вызваленьня з пад праклятага і агіднага ярма і жаданьне помсты за паруганыя народныя сьвятыні, разьбітыя падставы сямьі, калецтва моладзі, за паруганую сьвятую Веру бацькоў. Усё гэта ніколі не даруецца бальшавіком!

І прыдзе, вялікая, радасная для нас, і страшная для „іх“, гадзіна, калі сьвятая, нявінная кроў нашых братоў, аддаўшых жыцьцё сваё за Бацькаўшчыну, прывядзе да вызваленьня з пад ярма грандзіознай банды міжнародных праступнікаў.

Надыходзіць апошняя гадзіна! Ня гледзячы на ўсе хітрасьці, лоўкасьць і палітычны спрыт бальшавікоў, ужо зьявіліся першыя грозныя сымптомы страшнага народнага гневу. Па ўсей тэрыторыі Радавай Беларусі ўспыхіваюць ужо то там, то тут паўстаньні сялян; па ўсіх кутках сяляне бьюць камісараў, чэкістаў, селькораў і г. п.

Наагул, савецкая улада на Беларусі перажывае надта востры мамэнт.

Здавалася-б, што Польшча павінна была-б выкарыстаць гэты мамэнт, перагледзіць і рашуча зьмяніць сваю тактыку ў адносінах да беларускага народу і, апанаваўшы сытуацыю, скіраваць беларускі адраджэнскі рух *на карысны дзеля Дзяржавы шлях.* Але, замест гэтага, у нас па даўнейшаму, робяцца спробы дэнацыяналізацыі беларусаў. Спробы гэтыя, апрача вялікай шкоды для Дзяржавы, нічога добрага не дадуць. Гэткая няўдалая палітыка толькі спрыяе тварэньню розных „Грамадаў“, якія пхаюць тутэйшых беларусаў пад „ўладу сялян і работнікаў“. А на тым баку граніцы беларусы бьюць гэтую „уладу“, нецярпліва чакаючы дапамогі з... Заходу!

Пакуль што, як гэта ні прыкра, прыходзіцца сьцьвердзіць, што наш лёзунг—лёзунг аб'яднанай Беларусі ў лучнасьці с Польшчай, — сярод польскага грамадзянства — *не актуальны.*

А што будзе, калі лёзунг п. Тарашкевіча — „аб'яднанай Беларусі ў лучнасьці з Маскоўшчынай“, акажацца актуальным сярод беларускага крэсавага сялянства?

## Палітычны агляд.

У апошні час ня здарылася ў сусьветным палітычным жыцьці ніякіх важнейшых падзеяў. Сярод другарадных палітычных здарэньняў трэба ад'значыць конфлікт паміж Ватыканам і Чэха-Славакіяй. Прычынай гэтага конфлікту быў гэткі малаважны факт: дзень памяці Яна Гуса, 6 ліпня, сёлета сьвяткаваўся болей урачыста, чымсь раней. У ўрачыстасьцях афіцыяльна прынялі ўчасьце прэзыдэнт рэспублікі Масарык, прэмьер міністраў і іншыя сябры ўраду. На доме прэзыдэнта рэспублікі і міністэрства загранічных справаў былі вывешаны гусіцкія сьцягі. А трэба адзначыць, што закон аб сьвяточных днях у Чэха-Славакіі, які зьяўляецца рэзультатам компроміса між партыямі ўрадовай коаліцыі, у якую ўваходзяць і каталікі, не прызнае дзень Яна Гуса нацыянальным сьвятам. Дзеля гэтага, у гэткім урачыстым сьвяткаваньні дня 6 ліпня, каталікі пабачылі няроўныя адносіны ўраду

да рэлігіяў і палічылі сябе абражанымі ў сваім рэлігійным пачуцьці. Папскі прадстаўнік, дзеля пратэсту, выехаў з Чэха-Славакіі і паехаў у Рым. У Чэха-Славакіі пачалася спрэчка ў прэсе, а таксама й сярод партыяў. Пратэстанты і сац.-дэмакраты выступілі не абарону ўраду і прэзыдэнта, а каталікі перайшлі на бок Ватыкана. Конфлікт пагражае разрывам дыплёматычных зносінаў між Ватыканам і Чэха-Славакіяй і амаль што ня выклікаў міністэрскага крызісу. Гэты конфлікт небясьпечны праз тое, што Чэха-Славакія складаецца з дзьвёх галоўных складовых частак — пратэстанцкай Чэхіі і каталіцкай Славакіі, ятчэ не пасьпеўшых зусім зьліцца з сабой. Гэта здарэньне, калі толькі ня ўдасца яго хутка ліквідаваць, можа яшчэ больш павялічыць няпрыязьнь між чэхамі і славакамі.

Зусім інакшае зьявішча мы бачым, у той самы час, у Юга-Славакіі: там дайшлі да поўнай згоды між харватамі і сэрбамі, якія ў працягу 7-ёх гадоў змагаліся з сабой. Гэта ёсьць заслуга старага сэрбскага прэмьера Пашыча, які, амаль што бязупынна, быў на сваім становішчы каля 30 гадоў. Паразуменьне між харватамі і сэрбамі стала магчыма пасьля таго, як першыя выйшлі спад уплыву Масквы. Пасьля паразуменьня, ранейшы кабінэт Пашыча, складаўшыйся з радыкалаў, падаўся ў адстаўку і быў сарганізаваны новы кабінэт, у склад якога ўвайшло 4-х міністраў ад харватаў, а іншыя ад партыі Пашыча. Прэмьерам застаўся ізноў Пашыч. Новы ўрад мае ў Скупшчыне гэткую большасьць: радыкалаў 142 і харватаў 67 — усяго 209 галасоў. Апазіцыя мае 106 галасоў. Усе дэпутацкія мандаты харватаў зацьверджаны; выпушчаны на волю з вастрога павадыр харватаў Радзіч, якога колькі разоў судзілі за абразу караля, дзяржаўную здраду і паразуменьне з бальшавікамі. Цяпер, калі ў Югаславіі ўсё супакоілася, трэба спадзявацца ўзмацаваньня яе ўнутранай і вонкавай магутнасьці.

У Нямеччыне трэба адзначыць два гэткіх важных здарэньні: адказ нямецкага ўраду на ноту Францыі ў справе трактата бясьпекі і спыненьне гандлёвых зносінаў з Польшчай. У сваім адказе Францыі нямецкі ўрад не згаджаецца на ўсе варункі, прапанованыя саюзьнікамі. Немцы ня хочуць, галоўным чынам, згадзіцца па 2-х пунктах: перш-на-перш, каб Францыя гарантавала ахрану арбітражных канвэнцыяў, падпісаных Нямеччынай і ўсходнімі яе суседзямі і па другое, ня можа згадзіцца на пропуск праз сваю тэрыторыю чужаземнага войска, якое магло б быць паслана на падмогу Польшчы, калі-б на яе напалі ейныя суседзі. Гэта нязгоднасьць Нямеччыны тлумачыцца тым, што яна мае надзею ваяваць з Польшчай, а, апрача таго, тут відаць уплыў і бальшавікоў. Дык-жа рапальскі дагавор немцаў з бальшавікамі мае сваю моц і, ў апошні час нават, можна заўважыць узмацаваньне прыязьні між немцамі і бальшавікамі.

Ізноў разыходзяцца чуткі аб нямецка-савецкай ваеннай кооперацыі, аб супольнай іхняй рабоце ў Кітаі і ў Мароко. А ў Рапальскім дагаворы ёсьць параграф, на падставе якога немцы ня маюць права прапускаць чужаземнае войска праз сваю тэрыторыю, калі-б пачалася вайна Польшчы з С.С.Р.Р. Дзеля гэтага ясна, што немцы, застаючыся ў хаўрусе з С. С. Р. Р., ніколі ня згодзяцца на гэтыя дамаганьні Францыі.

Польска-нямецкія гандлёвыя перагаворы спыніліся да паловы верасьня. Галоўнымі пунктамі нязгоды былі дамаганьні Польшчы, каб быў ей дадзены свабодны ўвоз у Нямеччыну жывёлы й мяса і больш контынгент каменнага вугальля, а Нямеччына дамагаецца, каб яе таварам на польскім рынку былі дадзены гэткія самыя правы, як і францускім або італьянскім. Што-ж датычыцца Польшчы, дык яна ня можа згадзіцца на гэтыя дамаганьні немцаў дзеля таго, што зьвязана саюзным дагаворам з Францыяй, якая выторгавала для сябе найбольшыя выгады на польскім рынку. А немцы, ў адказ на гэта, адмаўляюцца браць ад Польшчы каменны вугаль, так як раней, у размеры больш за 100.000 тоннаў у месяц. А што датычыцца ўвозу з Польшчы жывёлы і мяса, дык яна тут датарноўваецца да сваей старай эканамічнай палітыкі, якую яна вяла да вайны і ў адносінах да Расеі. Нямеччына лепш хоча займацца жывёлаводзтвам, як болей выгадным, чымсь сельскай гаспадаркай, сільна залежнай ад пагоды і розных мясцовых варункаў. І дзеля гэтага, Нямеччына вывазіла з Расеі шмат сена, аўса і інш. для сваей жывёлы, але адмаўлялася купляць за граніцай жывёлу і мяса ды малочныя прадукты. Гэтую самую палітыку Нямеччына думае вясьці і ў адносінах да Польшчы, якая замяніла для яе ранейшую Расею. А пакуль што «таможанная вайна» між Польшчай і Нямеччынай трывае.

На Дал. Усходзе палажэньне крыху палепшала дзякуючы энэргічнаму ўмяшацельству Амэрыкі. Амэрыка даўно ўжо прадбачыла гэткі абарот палзеяў у Кітаі і была гатова спыніць тыя прывілеіі, якімі там карысталіся чужаземцы. Дзеля гэтага яна думае склікаць конфэрэнцыю 9-ёх дзяржаваў, зацікаўленых у Кітаі, на якой запрапануе спыніць правы экстэрытарыяльнасьці чужаземных дзяржаваў у Кітаі. Хаця гэта й ня выгадна для Англіі, але ёй прыдзецца ўступіць. Чужаземныя дзяржавы ўжо пайшлі на некаторыя ўступкі і прынялі два дамаганьні з 13-ёх прад'яўленых кітайцамі. Магчыма, што, дзякуючы пасрэдніцтву Амэрыкі, удасца ліквідаваць кітайскі конфлікт без праліву крыві.

*N.*

# Справа Шалешкі.

## Агульны сход беларускага грамадзянства.

У нядзелю 26 ліпня г. г. у Вільні адбыўся агульны сход беларускага грамадзянства, скліканы па ініцыятыве рэдакцыі „Грамадзкага Голасу“ дзеля разгляду справы Шалешкі.

Сход адчыніў рэдактар Я. Салавей. Пасьля гэтага быў выбраны прэзыдыум: старшынёй—Більдзюкевіч, віцэ-старшынёй — Туркевіч і сэкратаром Кабычкін.

Ад імя ініцыятыўнай групы, грам. Б. Друцкі Падбярэскі зрабіў даклад, у якім зазначыў, што ў апошні час у віленскай ў прэсе зьявіліся весткі аб расстрэле ў Менску бальшавікамі б. сэкратара Віленскай Беларускай Гімназіі, Уладзіміра Шалешкі. Адначасна з гэтым, польская прэса паведаміла, што на тэрыторыі віленшчыны працуе комуністычнае беларускае „чэка“. Гэтым самым усяму віленскаму беларускаму грамадзянству робіцца закід у дапамозе комуністычным арганізацыям. Каб зьняць гэтую пазорную пляму з імя беларускага грамадзянства, ініцыятыўная група рэдакцыі „Грамадзкага Голасу“ склікала гэты сход. Дакладчык прапануе выбраць камісію, якой даручыць высьвятленьне справы.

Пасьля дакладчыка выступіла гр. Мальчэўская, якая заявіла, што выступае па даручэньню сваей сястры Аўг. Шалешкавай, якая сама на сход прыйсьці не магла і даручыла ей даць сходу патрэбныя выясненьня. Мальчэўская зазначыла, што сястра яе ані воднага пісьма ад мужа не атрымала, але мае пераконаньне, што муж яе жыве. Сваё гэтае пераконаньне яна абасноўвае толькі на тым, што брат мужа атрымаў ад яго адзін ліст, датаваны 25 мая г. г. Апрача гэтага, нібыто, атрымлівалі пісьмы і іншыя крэўныя Шалешкі, але пісьмаў гэтых яна, Мальчэўская, ня бачыла.

Выслухаўшы іншых прамоўцаў, сход вынес наступную рэзалюцыю:

„Прымаючы пад увагу папярэднія інфармацыі, як газэтныя, так і прыватных асобаў, а таксама разьясьненьні крэўных Шалешкі і іншых прысутных на сходзе грамадзян, сход віленскага беларускага грамадзянства пастанавіў:

1. Факт, ці жыве Шалешка, ці не, лічыць не ўстаноўленым.

2. Выбраць камісію з 5 асобаў, якоў даручыць высьвятленьне гэтай справы.

3. Вызначыць камісіі 2-х тыднёвы тэрмін на высьвятленьне гэтай справы.

Апрача гэтага сход вынес наступныя рэзалюцыі:

1. Сход выражае сваё зьдзіўленьне з прычыны таго, што, ня гледзячы на вялікае значэньне гэтай справы, на сход не зьявіліся афіцыяльныя прадстаўнікі беларускага народу — паслы Соймавага Клюбу, а таксама не зьявіліся і прадстаўнікі Віленскага Нацыянальнага Камітэту і Школьнай Рады.

2. Сход сьцьвярджае наступны, вельмі прыкры і недапушчальны, факт: у апошні час дзеячамі пэўнага палітычнага беларускага кірунку ўцягваюцца ў актыўную палітычную працу — вучні беларускіх сярэдніх школаў. Гэтые дзеячы карыстаюцца вучнямі Віленскай Беларускай Гімназіі, як адказнымі рэдактарамі для крайне-левых газэт і аднаднёвак. Вучні змушаны падпісваць гэтыя газэты, а калі за гэта ім пагражае кара, дык іх перапраўляюць нелегальна ў Менск. Вядомы два факты: адзін з Бабровічам Лявонам, а другі з Ляванчуком Варысам. Апошні—вучань 8 кляссы гімназіі — падпісаў аднаднёўку „Зорка Беларуса“. Аднаднёўка гэтая сканфіскавана, а Ляванчука цягнуць да судовай адказнасьці па 129 арт. К. К. Вучняў, перапраўленых на „той“ бок граніцы, ужываюць і далей для палітычнай працы ў Радавай Беларусі. Вучні гэтыя зьяўляюцца выхаванцамі віленскага беларускага прытулку і не маюць ніякай апекі.

Сьцьвярджаючы гэтыя факты, сход пратэстуе проці іх і даручае камісіі прыняць усе, залежныя ад яе, крокі да таго, каб спыніць калечаньне беларускай бязпрытульнай вучнёўскай моладзі.

## Пастанова Час. Бел. Рады.

Пасьля агульнага сходу беларускага грамадзянства адбылося надзвычайнае паседжаньне Час. Бел. Рады, на якім была прынята наступная рэзалюцыя:

„Заслухаўшы даклад сэкратара агульнага сходу беларускага грамадзянства ад 26 ліпня г. г., сябра Прэзыдыуму Рады—А. Кабычкіна, Часовая Беларуская Рада пастанавіла:

1. Рашуча пратэставаць проці прастурнай інэртнасьці і нядбаньня беларускіх паслоў у гэткай надзвычайна важнай справе, як расстрэл аднаго з беларускіх культурна-прасьветных працаўнікоў, тым больш, што расстрэл гэты чуткі вяжуць з пэўнай асобай Л., якая надта блізка стаіць да Пасольскага Клюбу;

2. З агідай констатуючы факты дэмаралізацыі беларускай вучнёўскай моладзі праз уцягваньне яе ў комуністычную працу, Рада, як арганізацыя антыбальшавіцкая, рашуча пратэстуе проці гэтых фактаў і пастанаўляе прыняць усе залежныя ад яе крокі проці гэтай дэмаралізацыі і ўтварэньня у Заходняй Беларусі—*беларускага комсамолу.*

3. Рада лічыць сваім абавязкам давясьці да ведама грамадзянства, што фактычным рэдактарам і выдаўцом комунізуючых газэт, для падпісваньня якіх ужываецца школьная моладзь, зьяўляецца ўсім добра ведамы — **п. Антон Луцкевіч**, які і павінен нясьці маральную адказнасьць за лёс гэтых зіц-рэдактараў;

4. Рада лічыць, што адказнасьць за гэтыя факты павінен нясьці ня толькі п. Луцкевіч, але і тыя с п. п. паслоў, якія блізка стаяць да прытулку і выдавецтва газэт“.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

На апошнім, перад летнімі канікуламі, паседжаньні Сойм, ня гледзячы на абструкцыю левых партыяў, прыняў у трэцім чытаньні законапраект аб аграрнай рэформе. За прыняцьце гэтага законапраекту галасавала 200 паслоў, проці — 90. У Сэнаце законапраект будзе разглядацца толькі ў канцы верасьня, пасьля летняга перарыву.

Пачаліся перагаворы паміж Урадамі Польшчы і Літвы аб абмене вязьняў. У літоўскіх вастрогах знаходзіцца каля 30 палякаў, арыштаваных за палітычныя справы. У Польшчы, таксама, ёсьць некалькі дзесяткаў літоўскіх партызанаў. Аб абмене гэтых арыштаваных і йдуць цяпер перагаворы.

